Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

№38 (598)
22 верасня 2011 года.
Кошт свабодны.

Выдаецца са снежня 1994 года





Бульба – другі хлеб!

*Фота ByMedia.net*

Шаркоўшчынскі раён

# Камфорт сваімі рукамі

■ Станіслаў Раманчук

**Цёплы перыяд года завяршыўся, наперадзе ўсіх чакаюць халады, доўгая зіма з працяглым ацяпляльным сезонам.**

Цяпер толькі на Віцебшчыне ў дамах-інтэрнатах для састарэлых і інвалідаў пражываюць амаль 3,5 тысячы самых неабароненых суайчыннікаў. У чарговы раз падчас рабочай паездкі з сітуацыяй пазнаёмілася міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна. Падчас маніторынгу прыемнае ўражанне ў правяраючых пакінуў дом-інтэрнат у вёсцы Александрова Шаркоўшчынскага раёна, які размяшчаецца ў прыстасаваным памяшканні былой панскай сядзібы. Хоць будынку ўжо пад 100 гадоў, але гэтаму казённаму дому пашчасціла з яго цяперашнім гаспадаром. Некалькі гадоў назад сюды прыйшоў працаваць былы старшыня калгаса Станіслаў Верушэўскі і знайшоў тут патрэбную справу для душы і сваіх здольнасцей. Для пацыентаў стварылі камфортныя ўмовы: у памяшканнях паўсюдна ўтульна, чыста і прыгожа пасля касметычнага рамонту. Саму тэрыторыю ўпрыгожылі драўляныя скульптуры пад даўніну, млынок ля штучнай сажалкі. Нават адзеннем забяспечваюць жыхароў інтэрната з дапамогай уласнай швейнай майстэрні. Зноў забяспечылі сябе неабходнымі запасамі прадуктаў харчавання і вітамінаў на зіму, паколькі ёсць эфектыўная падсобная гаспадарка з 40 гектарамі ворнай зямлі, фермай і мехдваром. Халады не будуць страшныя і для жыхароў аналагічнай установы у Верхнядзвінскім раёне, дзе правялі рэканструкцыю кацельні.

Пастаўскі раён

# Сцеражыся аўтамабіля

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ ў першай палове года айчынны будаўнічы комплекс пачаў адчуваць сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці, на якія, аднак, не звярталі належнай ўвагі.**

Цяпер нерытмічнае фінансаванне, узаемныя неплацяжы прывялі да чарговага адтоку кадраў і іншых праблем. А ў Пастаўскім раёне наогул вымушаны быў поўнасцю спыніць сваю дзейнасць не па сваёй віне Варапаеўскі завод жалезабетонных вырабаў. Усе 180 работнікаў адправіліся ў вымушаны водпуск за свой кошт. У разгар будаўнічага сезону прадпрыемства пошнасцю "вымыла" свае зваротныя сродкі і проста не можа далей весці вытворчую дзейнасць. Справа ў тым, што яго заказчыкі, у асноўным бударганізацыі трэста "Полацсельбуд", вінаваты завадчанам за адгружаную прадукцыю ўжо болей за 850 млн. рублёў. Яшчэ амаль на паўмільярда на заводзе знаходзіцца гатовай прадукцыі для новабудоўляў, але яе дарма не аддаюць. Такіх сродкаў цалкам хапіла б калектыву для нармальнай дзейнасці на працягу двух месяцаў, а зараз грошай у завода няма. Дарэчы, пад пагрозай спынення сваёй дзейнасці апынулася і вядучая бударганізацыя трэста – аграбудфірма "Рассвет Пастаўскі". Калі не ўмяшаюца ўлады, то і сам трэст "Полацсельбуд" можа "лопнуць". З-за нізкіх зарплат шмат дзе пачалі звальняцца кваліфікаваныя будаўнікі (толькі з Браслаўскай ПМК-42 – 120 чалавек). Людзі едуць на заробкі ў Расію, дзе за месяц можна зарабіць ад 10 млн. беларускіх рублёў.

Докшыцкі раён

# Не ўдалося пажывіцца

■ Чэслаў Якубовіч

**Досыць многа нашых суайчыннікаў імкнуцца папраравіць свой дабрабыт, дзейнічаючы незаконным чынам.**

Але звычайна расплата за такія неабдуманныя дзеянні бывае непазбежнай. Для работнікаў Бягомльскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету з Докшыцкага раёна чарговым непрыемным здарэннем стала выяўленне ў лясным масіве рэшткаў забітых лася і казулі. Пры праверцы высветлілася, што дазволу на адстрэл жывёлін ніхто не выдаваў. Для дапамогі ў расkрыцці гэтай справы выклікалі следчых міліцыі, знайшліся і сляды ад браканьерскага аўто. Аператыўнікі неўзабаве вылічылі і страляўшага браканьера, работніка Мінскага трактарнага завода, у якога быў знойдзены і канфіскаваны паляўнічы карабін калібру 7,62 мм. Па справе незаконнага браканьерства з нанясеннем шкоды прыродзе заведзена крымінальная справа, ацэнку дзеянням гора-стралка дасць суд. У суседнім, Глыбоцкім раёне, у аналагічную непрыемную для сябе гісторыю трапіў мясцовы жыхар з ліку кіруючых работнікаў разам з падзельнікам з суседняга Докшыцкага раёна. Гэтых рыбаловаў-браканьераў затрымалі пры спробе здабыць 121,5 кг рыбы са штучнага вадаёма. Дарэчы, на працягу толькі аднаго тыдня на Віцебшчыне дзяржінспектары затрымалі ў ходзе рэйдаў на лясах і азёрах з забароненымі прыладамі лоўлі і палявання 27 парушальнікаў. У іх было канфіскавана 6 стрэльб, 26 сетак і амаль паўтоны мяса і рыбы.






# Лічба нумара

**8,9%** на столькі вырaслі ў Беларусі, па дадзеных статыстыкі, спажывецкія цэны толькі ў апошнім летнім месяцы жніўні. Перад гэтым у ліпені сітуацыя была адносна спакойная і рост цэн склаў сціплыя 3,5 %. Аднак даўно ўжо не назіралася падобных праяў беларускага "эканамічнага цуду", як сёлета, калі нават на вышэйшым узроўні пачалі гаварыць, што насельніцтва краіны не ў стане нармальна харчавацца і ўвогуле нармальна жыць.

Самае сумнае, што і заспакойвацца не выпадае. Яшчэ пакуль не пабіты антырэкорд мая, калі месячная інфляцыя дасягнула страшных 13,1 %. У пачатку лета гэтага года рост цэн пасля абвальнай дэвальвацыі айчыннага рубля працягваў расці (зафіксаваўся на ўзроўні 8,6 %). Некалькі месяцаў абяцалі выпрацаваць аптымальны эканамічны курс, каб пачаць неяк спраўляцца з эканамічнымі праблемамі. Аднак цяжкасці ў эканоміцы і, па-сутнасці, сур'ёзны сістэмны крызіс не думаюць спыняцца, пра што засведчыла наступіўшая восень.

Нагадаем, што на 2011 год планавалася выніковая інфляцыя меней за 9 %. Дзе цяпер тыя ўрадавыя прагназісты-аптымісты і абяцанні пачаць яшчэ актыўней будаваць моцную і квітнеючую Беларусь. А як сябе пачуваюць тыя 34,6 % выбаршчыкаў, якім на сінявокай Віцебшчыне не цярпелася дачакацца асноўнага дня галасавання. Маштабныя праекты і абяцанні тысячадоларавай зарплаты аказаліся на справе пустым гукам, а існуючая рэальнасць - суровай і непрыглядная.

Толькі за першы верасня тыдзень наступіўшай восені цэны ў Беларусі яшчэ паперлі наверх на 3,4 %. З другой дэкады месяцы рэзка, адразу на 20 %, падаражэў у чарговы раз цукар. Цікава, хто з чыноўнікаў аслухаўся існуючай устаноўкі аб тым, што больш чым на 5 % у месяц цэны не павінны расці? У выніку маем тое, што маем: страшны малюнак росту цэн за няпоўня 9 месяцаў – амаль пад 60 %. Калі інфляцыя прадоўжыць свой бег, то ў верасні можам дасягнуць яе майскага ўзроўню, бо пачаліся дадатковыя гандлёвыя аперацыі на біржы, і беларускі рубель на мяжы крыху больш за 5 тысяч рублёў дакладна не ўтрымаецца.

А наперадзе ўсіх чакае пачатак ацяпляльнага сезону і аб'ектыўна павінны павялічыцца тарыфы на камунальныя паслугі. Апошнім часам ужо неяк спакойна ўспрымаеш чарговае паведамленне аб тым, што нешта зноў даражэе. Да таго ж беларусы пачалі сутыкацца з недахопам на прылаўках мяса, прапалі танныя каўбасы, курыныя тушкі. На месцах сасісак і сардэлек у магазінах можна ўбачыць таксама падаражэўшыя рыбныя кансервы. Нават у сталічных гіпермаркетах сталі адпускаць мясапрадукты ў колькасці да 1 кг кожнага віда на аднаго пакупніка.

Як на грэх працягваецца палітыка ліквідацыі дысбалансу цэн у параўнанні з суседнімі рэспублікамі, бо многае працягваюць вывозіць жыхары дзяржаў Прыбалтыкі, Расіі і Украіны. У пачатку гэтай восені да існуючых праблем дабавіліся далейшы рост цэн на медыкаменты, цыгарэты, алкаголь і піва. Мінчан на іх Дзень горада "парадавала" чарговае павышэнне тарыфаў на праезд у грамадскім транспарце. Такім чынам, нам трэба рыхтавацца, што інфляцыя хутка дасягне ўзроўню 70-80 %, а пры дрэнным развіцці падзей дасягне 100 і болей %.

Зразумела, гэта не паказчыкі нашых рэкордных інфляцыйных 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Але давайце задумаемся, дзе цяпер у свеце ёсць краіны з такім рэзкім падзеннем жыццёвага узроўню і з такой гіперінфляцыяй, як у Беларусі. Міф аб стабільнасці на нашай зямлі развеяўся, як восеньскі туман пасля ўсходу сонца. На жаль, сонейка не хутка заглянае ў наша аконца. Адзінае, што крыху парадавала, гэта тое, што за кошт новых знешніх займаў і росту сусветных цэн на золата Беларусь змагла павялічыць свае золатавалютныя рэзервы. На пачатак восені яны дасягнулі 4, 6 млрд. долараў у эквіваленце. Нарэшце, каб знізіць попыт на медыкаменты, Мінздраў РБ вырашыў адправіць пакупнікоў аптэк у чаргу да ўрачоў для выпіскі рэцэптаў. На гэтым вось фоне быў падрыхтаваны ўказ аб аказанні аднаразавай матэрыяльнай дапамогі бюджэтнікам і пенсіянерам у памеры 500 тысяч рублёў. Адзінае, што на такія грошы цяпер шмат ужо не купіш, але і за гэта дзякуй.

## Дзень за днём

**Сёлета Беларусь стала сусветным "лідарам" па галапіруючай інфляцыі, з пачатку года цэны выраслі амаль на 60 %. На Беларускай валютна-фондавай біржы адбыліся дадатковыя гандлёвыя таргі, аднак цяпер у Нацбанка ёсць цяжкасці з рэсурсамі для падтрымання курсу рубля на прымальным рынкавым узроўні 6.000 – 8.000. Аб'яцаны выхад на адзіны курс рубля непазбежна выкліча далейшае падзенне плацежаздольнасці насельніцтва. "Газпрам" і "Белтрансгаз" пакуль не дамовіліся аб базавай цане паставак газу і яго транзіту. Памеры стыпендый у РБ для студэнтаў і навучэнцаў прывязалі да тарыфнай стаўкі 1-га разраду.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дарадца прэзідэнта па эканоміцы, прафесар Нью-Ёркскага ўніверсітэта Нурыэль Рубіні папярэдзіў аб новай хвалі магчымага сусветнага крызісу праз год-паўтара.

**Францыя.** У выніку выбуху і пажару на заводзе радыеактыўных адходаў каля АЭС Маркуль загінуў 1 чалавек і 3 атрымалі раненні, уцечкі радыяцыі, на шчасце, не адбылося.

**Кітай.** Як заявіў у Пекіне кіраўнік Гандлёвай палаты ЕС Дэвід Кучына, кітайскі юань стане цалкам канверсуемай сусветнай валютай да 2015 года па дамове з бізнесам ЕС.

**Бельгія.** У краінах ЕС з 1 верасня забаранілі аптовыя закупкі і гандаль лямпачкамі магутнасцю 60 Вт, раней спынілі вытворчасць састарэлых лямп на 75 і 100 Вт.

**Германія.** Міністр эканомікі ФРГ Філіп Рэслер не выключыў банкруцтва Грэцыі з мэтай выратавання еўрапейскай валюты – еўра, паколькі грэкі слаба вырашаюць свае праблемы.

**Украіна.** Найвышэйшы гаспадарчы суд краіны адмяніў ранейшую нацыяналізацыю і рашэнне аб вяртанні дзяржаве 68 % акцый буйнога Запарожскага алюмініевага камбіната.

**Лівія.** Тысячы людзей і сотні аўто на вуліцах Трыпалі ўшанавалі памяць загінуўшых зімой падчас акцый пратэсту, якія паклалі канец дыктатуры палкоўніка М. Кадафі.

**Польшча.** Сітуацыю ў Беларусі і шляхі яе змяненняў абмеркавалі ў Варшаве прэм'ер-міністр РП Дональд Туск і глава МЗС Радаслаў Сікорскі з лідарамі беларускай апазіцыі.

**Карэя.** Кампанія Samsung прадставіла навінку – супермадэль смартфона – Galaxy Note з найбольшым экранам 5,3 дзюймы, што набліжае яго да планшэтных камп'ютараў.

**ЗША.** Краіна аддала даніну памяці ахвярам тэракту 11 верасня, прэзідэнт Барак Абама прадставіў новы план стымулявання амерыканскай эканомікі на 447 млрд. USD.

**Японія.** Краіна ў шосты раз за апошнія 5 гадоў памяняла прэм'ер-міністра з чэрвеня 2010 года Наота Кана, калі яго дзейнасць падтрымалі толькі 15 % жыхароў.

**Грэцыя.** З-за недаверу да ўласных банкаў грэкі сталі масава здымаць грошы (на 40 млрд. $) дэпазітаў, што яшчэ больш ускладніла крызісную сітуацыю ў эканоміцы краіны.

**Украіна.** Правячая Партыя рэгіёнаў ініцыявала змены ў дзеючы парадакналічэння часу: у ноч на 30 кастрычніка ўкраінцы не будуць пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў назад.

**Польшча.** Экс-прэзідэнт Лех Валенса адмовіўся ад ганаровай узнагароды Літвы – ордэна Крыжа Вітаўта ў знак пратэсту супраць становішча польскай меншасці на Віленшчыне.

**Швейцарыя.** Рэзка пагоршыўся стан эканомікі краіны: з-за ўмацавання франка за год цэны выраслі на 30 %, істотна знізілася колькасць прыезджых замежных турыстаў.

## Лукашэнка падпісаў указ аб выплаце ў верасні аднаразовай дапамогі памерам 500 тыс. рублёў



■ *БелаПАН*

**Аляксандр Лукашэнка 15 верасня падпісаў указ № 417 «Аб аднаразовай матэрыяльнай дапамозе».**

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, «у мэтах дадатковай падтрымкі грамадзян" прадугледжана аказанне аднаразовай матэрыяльнай дапамогі – 500 тысяч рублёў – асобам, якія на 1 верасня 2011 года з'яўляліся работнікамі бюджэтнай сферы, уключаючы дзяржаўных служачых і ваеннаслужачых, атрымальнікамі дапамог (па доглядзе дзіцяці, дзіцяці-інваліда і інваліда I групы) і непрацуючымі атрымальнікамі пенсій.

«З мэтай забеспячэння роўных магчымасцяў грамадзян кіраўнікам арганізацый, на работнікаў якіх не распаўсюджваецца дзеянне ўказа, рэкамендавана выплаціць аднаразовую матэрыяльную дапамогу сваім работнікам, зыходзячы з фінансавых магчымасцяў арганізацый», — паведамляе прэс-служба.

Указам прадугледжана, што выплата аднаразовай матэрыяльнай дапамогі будзе праведзена ў верасні 2011 года.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па стартавай цане 1 млрд. USD выставілі на аўкцыён 1 снежня дзярждолю беларускага аператара кампаніі сотавай сувязі МТС, яго доля на рынку кліентаў 44,3 %.

**Кіраўск.** У пасёлку Жылічы ўрачыста адкрылі пасля рэстаўрацыі 1-ю чаргу палаца-паркавага ансамбля пабудовы канца XVIII стагоддзя, цяпер тут школа мастацтваў.

**Магілёў.** Нягледзячы на эканамічны крызіс, улады вобласці вырашылі правесці 3-9 кастрычніка XII Міжнародны фестываль "Залаты шлягер", на яго пойдзе 700 млн. рублёў.

**Мінск.** Больш за 150 аўтамабіляў сабраў у Футбольным манежы пасля перапынку ў 2,5 гады міжнародны аўтасалон "Матор-шоу", адразу 10 навінак аўто прадставіў канцэрн Audi.

**Дудуткі.** Дзясяткі каштоўных экспанатаў знішчыў пажар у музеі народных старажытных рамёстваў, на шчасце, не пацярпелі ўдзельнікі вяселля на тэрыторыі туркомплекса.

**Мінск.** Прэзідэнт А. Лукашэнка паведаміў, што не баіцца ніякіх народных паўстанняў і не рыхтуе сыноў наследнікамі на сваё месца.

**Гродна.** Пасля ўмяшання Федэрацыі прафсаюзаў РБ дырэкцыя малкамбіната вярнула 153 рабочым прэміі, якімі яна аплочвала штраф за скідванне шкодных сцёкавых вод.

**Гомель.** У гаспадарках вобласці ў 2012 годзе вырашылі пачаць вырошчваць у значных прамысловых маштабах на плошчы 70 тысяч гектараў сланечнік.

**Бабруйск.** Ураду Беларусі не ўдалося дамовіцца з польскімі інвестарамі аб узвядзенні на пляцоўцы паблізу горада 5-га па ліку ў краіне сучаснага цукраперапрацоўчага завода.

**Ліда.** На 6 кастрычніка дзяржава паўторна выставіла на продаж за 3 млн. $ дзяржпакет акцый (80, 6 %) буйнога прадпрыемства галіны ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты".

**Мінск.** На цэнтральнай алеі Маскоўскіх могілак знайшоў вечны супакой легенда айчыннага хакею, загінуўшы ў авіякатастрофе 36-гадовы Руслан Салей, у яго засталіся трое дзетак.

**Брэст.** У абласным тэатры драмы прайшоў XVI Міжнародны тэатральны фестываль, які сабраў 12 краін і 26 драмкалектываў, 15 тысяч гледачоў ўбачылі 31 цікавы спектакль.

**Шчучын.** Невядомы падпаліў каля апоўначы гаражы саўгаса "Навадворскі", агонь знішчыў 2 аўтамашыны ВАЗ і дах на 8 боксах, адну легкавушку выратавалі пажарныя.

**Нясвіж.** У брацкай магіле ў райцэнтры ўрачыста перазахавалі астанкі 5 савецкіх салдат, загінуўшых пры абароне горада летам 1941 года, імя аднаго з іх (з Расіі) удалося ўстанавіць.

**Салігорск.** Мясцовая птушкафабрыка падала заяўку на рэгістрацыю рэкорда ў Кнігу Гінэса: яйка вагой 173 грамы, знесенага адной з курыц (цяпер сусветны рэкорд – 117 грам).

## Мінэкаміні зноў абмежавала надбаўкі на тавары з часова рэгуляванымі цэнамі

■ *afn.by*

**Цэны на гэтыя тавары могуць рэгулявацца на тэрмін не больш за 90 дзён.**

Міністэрства эканомікі Беларусі зноў абмежавала гандлёвыя надбаўкі на сацыяльна-значныя тавары, цэны на якія могуць рэгулявацца на тэрмін не больш за 90 дзён.

Як паведамлялася, пастановай Саўміна № 676 ад 28 мая 2011 г. быў зацверджаны пералік тавараў з часова рэгуляванымі коштамі, куды былі ўключаны: рыба жывая, свежамарожаная (акрамя далікатэсных), селядзец салёны, сыры, пярловая, ячная, аўсяная крупы, свежыя гуркі, памідоры, яблыкі, бананы, лімоны, апельсіны, кава, гарбата, соль, субпрадукты з ялавічыны і свініны першай і другой катэгорый, з мяса курэй і куранят, вараныя каўбасы, сасіскі, крывяныя і ліверныя каўбасы, сінтэтычныя мыйныя сродкі.

Раней Мінэканомікі ўжо абмяжоўвала цэны на названыя тавары пастановай № 79, якая ўступіла ў дзеянне з 1 чэрвеня і дзейнічала адпаведна 90 дзён.

Пастановай № 144 ад 2 верасня 2011 года зноў уведзены гранічныя максімальныя гандлёвыя надбаўкі на дадзеныя тавары за выключэннем гарбаты і кавы. Дакумент уключаны ў Нацыянальны рэестр прававых актаў 13 верасня і ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З цягам часу ў вобласці, як заявіў глава рэгіёна А. Косінец, трэць існуючых малакамплектных школ будуць закрыты, дзяцей будуць падвозіць да новых месцаў вучобы.

**Лёзна.** На мяжы з Расіяй адкрылася першае прыватнае кафэ сям'і Ільюшчанкаў "Прыдарожнік" на 12 пасадачных месцаў. На аб'ект пайшло больш за 15 тысяч долараў.

**Чашнікі.** На галоўнай плошчы райцэнтра адсвяткавалі Дзень горада з парадам барабаншчыц, шоу байкераў, на сцэне адна з маладых сем'яў зарэгістравала свой шлюб.

**Віцебск.** Падчас аўкцыёна фонд "Віцебскаблмаёмасць" за рэкордную суму 354 млн. рублёў прадаў інвестару двухпавярховы помнік архітэктуры на Смаленскай плошчы.

**Глыбокае.** Зялёны гарошак, таматны соус, кансервы і сокі мясцовага ААТ "Купцоўъ" без гандлёвых надбавак добра раскупляліся на восеньскім кірмашы ў абласным цэнтры.

**Наваполацк.** У мікраёне Баравуха ў 2-гі раз прайшоў экалагічны фестываль "Крыніца здароўя каля нафтаграда" з прэзентацыяй аграсядзіб вобласці, дэгустацыяй нацыянальных страў.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы лясгас на ўскраіне горада абсталяваў на плошчы 2,6 гектары заапарк "Лясная казка", а ў вёсцы Юсцьянава адкрыў 2-і па ліку Дом паляўнічага.

**Браслаў.** Ноччу паблізу вёскі Рубеж лоб у лоб сутыкнуліся дзве іншамаркі Форд Мандэа і Вольва 440, у бальніцу даставілі 7 параненых, з іх аднаго дасталі з аўто выратавальнікі МНС

**Сянно.** У райцэнтры ўрачыста адкрылі помнік: савецкі танк ІС-3 у гонар самай буйной танкавай бітвы II Сусветнай вайны з удзелам 2 тысяч бронемашын 6-10 ліпеня 1941 года.

**Лепель.** Раённы суд сурова пакараў двух злосных браканьераў-рыбаловаў з вёскі Чарэйшчына: па 1 году пазбаўлення волі кожнага і спагнаў з іх 4,7 млн. рублёў штрафу.

**Віцебск.** Да Дня беларускай вайсковай славы на бульвары ля Акадэміі ветэрынарнай медыцыны ніяўлоўны Мірон зноў узняў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

**Полацк.** Падчас рэстаўрацыі Спаса-Праабражэнскай царквы расійскія і беларускія спецыялісты раскрылі першыя выявы XII стагоддзя святых пакутнікаў Барыса і Глеба.

**Наваполацк.** Мясцовую ДЮСШ па хакеі вырашылі назваць імем свайго выхаванцы, 21-гадовага нападаючага "Лакаматыва" (Яраслаўль) Сяргея Астапчука, які разбіўся з камандай.

**Орша.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць двух жыхароў гарпасёлка Балбасава (34 і 35 гадоў), якія скралі ноччу з калгаснага поля 700 кг бульбы.

**Віцебск.** Пры садзейнянні пасольства Ізраіля ў РБ у абласным краязнаўчым музеі адкрылася цікавая выстава фатаграфій "Цень Іерусаліма" вядомага фотамастака Леаніда Падруля.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Духоўная сустрэча ў Верхнядзвінску

■ **Кс. Віктар Місевіч,** тэкст і фота.

Ва ўспамін св. Яна Златавуснага святары Віцебскай дыяцэзіі сабраліся на духоўную сустрэчу. Прайшла яна ў Верхнядзвінску – горадзе на Заходняй Дзвіне. Разам са святарамі маліліся сёстры, якія працуюць у парафіях дыяцэзіі.

Біскуп Уладзіслаў Блін, цэлебруючы Найсвяцейшую Ахвяру, заўважыў, што ўжо прайшоў час адпачынку і канікулаў, таму перад душпастырамі стаіць адказная задача: згуртаваць на катэхезе дзяцей і моладзь. Заняткі па рэлігіі з’яўляюцца неабходнай з’явай у працэсе хрысціянскага выхавання.

Са словам Божым да прысутных звярнуўся кс. прэлат Крыспін Дубель, часовы павераны ў справах Апостальскай Сталіцы ў Беларусі. Ён закрануў такія важныя моманты духоўнага развіцця асобы, як адказнасць, пакора і адчуванне вечнасці.

Падчас духоўнай канферэнцыі а. Марэк Пасют OFMCap прапанаваў засяродзіцца над патрэбай навучання і практыкавання Каталіцкага Катэхізіса. Перад прысутнымі таксама выступіў госць з Мінска – дырэктар Душпастырскага цэнтра кс. Эдмунд Друз TChr., а таксама іншыя ўдзельнікі сустрэчы.

Духоўныя спатканні святароў і сясцёр Віцебскай дыяцэзіі праходзяць штомесяц. Яны патрэбныя, каб удзельнікі маглі ўзнавіць свае духоўныя сілы ў супольнасці, падзяліцца вопытам працы і вырашыць арганізацыйныя справы.

Наступная сустрэча адбудзецца 4 кастрычніка ў Паставах.









# Ля ракі Мнюта аказалі жорсткі супраціў ворагу

■ **Ул. Скрабатун**

Шмат разоў быў на розных урачыстасцях, што ладзіліся ў задарожскім касцёле, але ўсё ніяк не выпадала наведаць старыя могілкі, што за крокаў 300-350 на паўночны захад ад храма. І вось 11 верасня г.г. такая нагода ў рэшце рэшт надарылася . Убачыў я тут некалькі цікавых надмагільных помнікаў на пахаваннях тутэйшай шляхты, але маю ўвагу найперш звярнулі пахаванні польскіх жаўнераў з 1920 года. Шэсць стэлаў з крыжамі, права- і леваруч – шыльды з прозвішчамі. Верагодна, паўсотні жаўнераў пахавана, праўда, у большасці выпадкаў падпісаныя – nieznany (невядомы). Падобных пахаванняў нямала ў нашым краі: Глыбокае, Дунілавічы, Лужкі, Германавічы, Язна... І вось яшчэ адно – каля вёскі Мнюта-2.

Хтосьці скажа: факт вядомы і ніякага адкрыцця аўтар не зрабіў. Не спяшайцеся крытыкаваць! Калі пра нейкую гістарычную падзею ці знаходку не пішуць журналісты ці краязнаўцы, то гэтай падзеі ці знаходкі наогул не існуе! Гэта як цяпер у бізнесе, калі цябе ці тваёй фірмы няма ў каталогу, то цябе і фірмы ў бізнесе не існуе, бо краіна пра гэта не чула.

Зрэшты, што за вайсковыя падзеі адбываліся тут у 1920 годзе? Звернемся да савецкай мемуарнай літаратуры:

«... У наступныя дні, адбіваючы ўдары белапалякаў, мы сустрэліся і з варожымі бранемашынамі. Са зменным поспехам бой доўжыўся да 2 чэрвеня, пасля чаго 11-я дывізія, як і ўвесь Заходні фронт, пачала адыходзіць. Праз Докшыцы, станцыю Падсвілле і раён возера Пліса, бесперапынна контратакуючы, мы адыходзілі да пярэсмыка паміж азёрамі Доўгае і Сшо. Там замацаваліся, адкапалі акопы, паставілі драцяныя загароды і, адбіваючы штодня па некалькі нападаў, трымалі пазіцыю да 15 чэрвеня. Пераканаўшыся, што адціснуць нас далей не атрымаецца, супернік спыніў наскокі. Наступіла паўмесячнае зацішша. Тут мы пачалі разбірацца, чаму наш травеньскі рывок нечакана заглух. Высветлілася, што палякі, адкінуўшы спачатку за Бярэзіну 16-ю армію, падцягнулі з поўдня рэзервы і стукнулі па флангах 15-й арміі, якая расцягнулася па фронце на 180 км, каб адсекчы яе і прыціснуць да літоўскай мяжы. Панёсшы вялікія страты ў травеньскіх сутычках, 15-я армія таксама змушана была адступіць. У рakі **Мнюта** яна аказала жорсткі супраціў ворагу, і пілсудчыкі не змаглі прасунуцца далей ні на крок. Бярэзінская бітва скончылася».

**Крыніца:** *Василевский А. М. «Дело всей жизни».*

З берагоў Мнюты бальшавікі пагналі палякаў аж да сцен Варшавы. І, напэўна, каб бальшавікі здолелі ўзяць польскую сталіцу, то жылі б палякі ў Польскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы... Але гісторыя не прымае ўмоўнага ладу! Адбылося тое, што адбылося! Здарыўся «Цуд над Віслай». Палякі там нечакана змаглі не толькі аказаць супраціў і адбіць наступ Чырвонай арміі, але і ўшчэнт яе разбіць. Паводле падлікаў страты ў Чырвонай Арміі сягалі да 25 тысяч загінулых і 60 тысяч палонных. Польскае войска страціла ўдвая менш. У чым асноўная прычына гэтай вікторыі? Бітва на Вісле была не дзяржаўная арганізацыя перамогі, а народная арганізацыя перамогі. Бо выйшлі змагацца простыя людзі: студэнты, працоўныя, сяляне, якія змаглі даць адпор рэгулярнай арміі бальшавікоў на чале з Тухачэўскім. Гэта была першая параза камуністычнай ідэалёгіі...

Палякі ізноў вярнуліся ў Глыбокае і ваколіцы, але ўжо на 18 гадоў (1921-1939).

У гэтай тэме бадай усё зразумела і няма белых плямаў. Але ёсць адзін факт, пра які часта задумваюся: існуюць польскія вайсковыя пахаванні 1920 года, але няма ў нашым краі ніводнага пахавання загінулых чырвонаармейцаў. Можа, іх павезлі і пахавалі ў Полацку, Ушачах, Лепелі? На савецкай тэрыторыі. Няма і там!

Вось жа палякі з берагоў Мнюты беглі без аглядкі аж да Варшавы, але вярнуліся назад і помнікі на магілах паставілі.

А дзе ж пахаванні чырвонаармейцаў? Няўжо закапалі ў безыменных магілах... Культура!





НАРОДНАЯ ПРАГРАМА



www.prahrama.by

**Стан сельскай гаспадаркі з’яўляецца актуальнай тэмай для нашага рэгіёна. Большасць нашых землякоў працуе калі не ў сельскай гаспадарцы, то на прадпрыемствах, якія перапрацоўваюць яе прадукцыю.**

**Калісьці нашыя продкі прыкладалі вялікія намаганні, каб прыдбаць участак зямлі. Перад вайной многія выязджалі на заробкі ў Амерыку, вярталіся і набывалі зямлю ў нашым рэгіёне. Калі камуністы адабралі ў людзей зямлю і стварылі калгасы, людзі сталі ўцякаць з вёскі.**

**Падчас распаду Савецкага саюза многія беларусы вырашылі пайсці па шляху сваіх дзядоў і пачалі весці фермерскія гаспадаркі. Двое з трох беларускіх фермераў кінулі зямлю праз некалькі год, але больш за дзве тысячы гаспадароў трымаюцца дагэтуль. Што трымае на зямлі беларускіх фермераў? Ці прыбыткова апрацоўваць беларускую зямлю? І ці змогуць фермерскія гаспадаркі накарміць беларусаў? Рыхтуючы гэты матэрыял, мы пагутарылі з фермерамі Уладзімірам Іванковічам з Лынтупаў, Якавам Серафімовічам і Аляксандрам Мяжэніным з Глыбоччыны.**

# Фермерства

## Праблемы і перспектывы



Якаў Серафімовіч

■ Кастусь Шыталь

### Бізнэс ці лад жыцця?

Якаў Серафімовіч, які вядзе сваю гаспадарку на хутары Скрабатуны, што за некалькі кіламетраў ад геаграфічнага цэнтра Еўропы, кажа, што з дзяцінства марыў жыць у вёсцы. *“Фермерства – гэта не бізнэс, а лад жыцця. Фермеры – гэта людзі самастойныя і незалежныя, якія шукаюць свой падыход да жыцця і працы”*, – кажа спадар Серафімовіч. Якаў Серафімовіч за дваццаць год працы паспрабаваў розныя віды гаспадаркі, а ў апошнія гады заняўся конегадоўляй і агратурызмам.

*“Спадзяюся, што мае дзеці таксама будуць займацца гаспадаркай. Яны тут жывуць, гэта іх радзіма. Дачка мая ў восьмым класе, кажа, што паедзе вучыцца на заатэхніка, а потым вернецца ў Скрабатуны. Калі ў душы ёсць цяга да зямлі, то чалавек будзе працаваць”*, – разважае Якаў Серафімовіч.

Уладзімір Іванковіч пачаў займацца фермерствам разам з двума сваімі сябрамі напачатку 1990-х. Сябры кінулі зямлю, а спадар Уладзімір - не. Хоць, прызнаецца ён, вялікага прыбытку ад зямлі няма – асноўны прыбытак у гаспадарцы дае лесапілка. Сёлета Уладзімір Іванковіч пасеяў 10 гектараў збожжа, трэцюю частку якога спляжылі дзікі.

*“Сельская гаспадарка для мяне – хутчэй хобі, “шкодная звычка”. Мне падабаецца працаваць на зямлі”*, – кажа Уладзімір Іванковіч. Сын Уладзіміра з маленства цікавіцца сельскагаспадарчай тэхнікай, а зараз вучыцца ў аграрнатэхнічным універсітэце. Дачка навучаецца ў БДУ на спецыяльнасці “турызм” і выказвае жаданне вярнуцца дадому, каб займацца вясковым турызмам на Сарачанскіх азёрах.

Аднак не трэба думаць, што фермерства – гэта выключна рамантыка для фанатыкаў. Як паказвае досвед нашых суразмоўцаў, працуючы на сельскай гаспадарцы, можна зарабіць на жыццё.

### Праца на зямлі і праца на паперы

Нейкай асаблівай падтрымкі з боку дзяржавы фермеры не адчуваюць. У апошнія гады, кажуць нашыя суразмоўцы, дадалося ўвагі з боку дзяржаўных органаў. Аднак ільготныя крэдыты і набыццё тэхнікі ў лізінг для большасці фермераў застаецца марай.

Гаспадары, якія працуюць на зямлі амаль два дзесяцігоддзі, паспелі звыкнуцца да такіх адносінаў з дзяржавай. Улада не падтрымлівае, але і не ўмешваецца ў працу – і фермераў гэта задавальняе. Яны не разлічваюць, што пры сённяшняй сістэме ўлады становішча можа кардынальна палепшыцца. *“Фермер – чалавек вольны і незалежны, а нашай дзяржаве такія непатрэбныя”*, – лічыць Якаў Серафімовіч.

Чым найбольш нагадвае пра сябе ўлада – дык гэта заблытанай падатковай сістэмай. *“Падаткі не тое каб вялікія, але складаныя. Непатрэбных папераў, якія трэба пісаць, – акіян. Шмат часу фермеры замест працы на зямлі займаюцца працай над паперамі”*, – лічыць Аляксандр Мяжэнін. Між тым, можна было б зрабіць адзін падатак, памер якога залежаў бы ад колькасці зямлі. Але ўлада наўрад ці пойдзе на такі крок, бо тады не будзе чым заняцца вялікай колькасці інспектараў і кантралёраў, лічаць фермеры.

### Знайсці нішу на рынку

Намагаючыся выжыць у складаных беларускіх умовах, фермеры вымушаны былі шукаць нішы на рынку, якія могуць даць прыбытак. Распаўсюджаным відам дзейнасці сярод фермераў з’яўляецца вырошчванне агародніны і садавіны. Прадукцыя, якую кіраўніцтва калгасаў і саўгасаў лічыць нязручнай, дае прыбытак фермерам. Аляксандр Мяжэнін, гаспадарка якога знаходзіцца недалёка ад вёскі Забелле, займаецца амаль выключна гароднінай.

Некаторыя фермеры паралельна з сельскай гаспадаркай займаюцца іншымі відамі бізнесу. Так, Уладзімір Іванковіч яшчэ і лесараспрацоўкай. Набывае з аўкцыёна ўчасткі лесу, піліць на сваёй пілараме на дошкі, частку прадае людзям на дровы.

У апошнія гады мясцовыя фермеры пачалі займацца агратурызмам. Уладзімір Іванковіч збіраецца прымаць турыстаў у доме, які будуе на беразе Сарачанскага возера. Якаў Серафімовіч прапануе наведнікам сваёй сядзібы адпачынак на беразе возера і конныя прагулкі па Галубіцкай пушчы.

Уладзімір Іванковіч, разважаючы пра будучыню сваёй гаспадаркі, звяртаецца да досведу польскіх фермераў. У суседняй краіне многія дробныя гаспадары адмовіліся ад выкарыстання штучных угнаенняў і хімікатаў і пачалі вырошчваць экалагічна чыстую прадукцыю. Працаваць даводзіцца болей, але экалагічна чыстую садавіну і гародніну можна прадаць удвая даражэй. Да таго ж, такія гаспадаркі маюць добрую падтрымку з боку Еўрасаюза.



### Поспехі прыватных гаспадароў

Каб пераканацца ў эфектыўнасці прыватнай сельскай гаспадаркі, можна і не звяртацца да замежнага досведу. Па звестках афіцыйнай беларускай статыстыкі, прыватныя гаспадаркі – фермерскія землі і прысядзібныя надзелы вяскоўцаў – займаюць 11% прыдатнай для апрацоўкі зямлі, але даюць каля 30% сельскагаспадарчай прадукцыі. Амаль 90% беларускай бульбы, 80% гародніны і болей за 90% садавіны і ягадаў растуць на фермерскіх палях, вясковых агародах і “сотках”.

Беларускія ўлады, хоць робяць стаўку на падтрыманне калгасаў, вымушаны прызнаваць важнае значэнне прыватных гаспадарак. Летась Лукашэнка праводзіў адмысловую нараду па гэтым пытанні, вінаваціў чынавенства ў “наплявальніцкім” стаўленні да вяскоўцаў ды патрабаваў дапамагчы людзям апрацоўваць свае “соткі”. Таксама быў падпісаны ўказ аб крэдытнай падтрымцы прыватных гаспадарак.

Варта заўважыць, што дробныя прыватныя гаспадаркі не з’яўляюцца асноўным месцам працы вяскоўцаў. Імі займаюцца ў вольны ад дзяржаўнай працы час – і дасягаюць вялікіх вынікаў. Было б лагічна, каб дзяржава дапамагла здольным вяскоўцам развіваць уласную гаспадарку ды ператварыцца з наёмных калгасных работнікаў у фермераў. Аднак, кажучы “А”, кіраўніцтва краіны не кажа “Б”. Як вынік - вяскоўцы працуюць ад цямна да цямна амаль без выходных: частку часу на дзяржаву, частку часу на сябе.

### Ці накормяць беларусаў фермеры?

На думку фермераў, Беларусі пара пайсці тым шляхам, якім ідзе ўвесь цывілізаваны свет. Уладзімір Іванковіч цікавіцца досведам еўрапейскіх краін у галіне сельскай гаспадаркі. На яго думку, у буйнатаварным памеры гаспадаркі, на які робіць стаўку беларуская дзяржава, няма нічога кепскага. У той жа час не варта падмяняць пытанне ўласнасці на зямлю пытаннем памеру гаспадаркі, як гэта робяць афіцыйныя асобы і дзяржаўная прэса.

“Калі калгас зрабіць акцыянерным таварыствам ды перадаць кантроль над ім мясцовай наменклатуры, нічога не зменіцца. Будуць працаваць тыя ж самыя рабочыя, будуць гэтак жа піць і красці. Спачатку трэба даць зямлю ў прыватныя рукі, а потым пачнецца працэс аб’яднання”, – лічыць Уладзімір Іванковіч. Ён спасылаецца на досвед Польшчы і Швецыі, дзе дзяржава на заканадаўчым узроўні стварае ўмовы для ўзбуйнення гаспадарак, і галандскі досвед кааперацыі прыватнікаў.

Многіх беларускіх фермераў не задавальняе статус “пажыццёвага валодання” дзяржаўнай зямлёй. Яны жадаюць, каб зямля была прыватнай, якую немагчыма адабраць, і каб можна было перадаваць нашчадкам.

*“У нас, у Лынтупах, ёсць людзі, якія гатовыя ўзяць зямлю. Ёсць нават тыя, хто гатовы біцца за зямлю”*, – падсумоўвае свае разважанні Уладзімір Іванковіч. Фермер перакананы, што прыватныя гаспадаркі могуць накарміць беларусаў.

### Будучыня за прыватнымі гаспадарамі

Сёння становіцца відавочным, што беларуская вёска імкліва занепадае. Моладзь імкнецца з’ехаць, працоўных рук становіцца ўсё меней. Сёлета ў Шаркоўшчынскім раёне, каб пасеяцца, прыйшлося прыцягваць працоўных з Наваполацка, бо ў вёсцы ўсё меней працаздольных людзей. Прымусовая праца гарадскіх працоўных, школьнікаў і студэнтаў на ўборцы бульбы, ільну, морквы стала настолькі звычайнай, што ўжо не выклікае здзіўлення. Дзяржаўная праграма па “адраджэнні вёскі”, у якую былі ўкладзеныя мільярды даляраў (!), не адрадзіла сельскую гаспадарку, можа, крыху запаволіла працэс яе заняпаду.

Фермеры даказалі сваёй працай, што яны могуць эфектыўна гаспадарыць на зямлі. Незалежныя эксперты-эканамісты пацвярджаюць меркаванне, якое склалася ў нас падчас падрыхтоўкі гэтага матэрыялу: трэба даць зямлю ў прыватныя рукі і аказаць дапамогу гаспадарам. Рэформы сельскай гаспадаркі, якія неабходна будзе правесці ў Беларусі, будуць складанымі і могуць расцягнуцца на дзесяцігоддзі, аднак відавочна, што будучыня беларускай вёскі – за прыватнымі гаспадарамі.

■ А.Г. Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Любое паляванне павінна быць законным

Пачатак верасня, надвор'е стаіць добрае, на палях ураджай амаль сабраны, засталіся кукуруза, бульба, бурак. Дзікія звяры ў масавым парадку кормяцца кукурузай, а паляўнічыя выкарыстоўваюць магчымасць папаляваць на дзікоў, якіх развялося шмат. Але любое паляванне павінна быць законным. Вось толькі «героі» нашага аповеду вырашылі, што закон для іх не пісаны, тым больш, калі адзін з «герояў» сам павінен ахоўваць прыроду, сярод якіх і працуе грамадзянін Пятроў, жыхар в. Курапolле Пастаўскага раёна леснікам.

3 верасня 2011 года ляснік Пятроў сустрэў свайго добрага знаёмага Сідарава (прозвішчы да рашэння суда зменены) і прапанаваў папаляваць. Сідараў задумаўся, бо ён толькі нядаўна ўступіў у таварыства паляўнічых і разумеў, што паляванне будзе незаконным, а за гэтыя дзеянні можна і паплаціцца. Але Пятроў сказаў пераканаўча: « Я ж ляснік, і калі што, усе пытанні вырашу». І вось ужо сябры ўзялі паляўнічыя стрэльбы (дарэчы, не зарэгістраваныя ва ўсталяваным парадку), фару для падсвятлення і на аўтамашыне «Аўдзі» адправіліся шукаць шчасця на кукурузных палях. Ды толькі шчасце сталася нядоўгім: не паспелі яны нікога падстрэліць, як іх затрымалі інспектары Глыбоцкай міжрайінспекцыі і канфіскавалі зброю, фару, а матэрыялы накіравалі ў Пастаўскі раённы суд, які ацэніць паляванне нашых браканьераў у кругленькую суму.



Вось так нашы леснікі ахоўваюць прыроду. У гутарцы з інспектарамі Пятроў увесь час сцвярджаў, што ён не браканьер, а проста выйшаў на ахову лесу, але навошта яму незарэгістраваная стрэльба і патроны з кулямі, растлумачыць так і не змог.

Толькі за адзін дзень інспектарамі міжрайінспекцыі затрыманы два жыхары Глыбоцкага раёна, якія, ідучы за грыбамі, выкінулі смецце ў лесе, за што паплаціліся на вельмі добрую суму. Вось пасля такіх грыбнікоў і застаюцца кучы смецця, а лес ператвараецца ў звалку.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 8-02156-28670 «гарачая лінія» - кругласутачна.




Чэмпіянат Беларусі па футболе

# Не варта паслабляцца

**"ПМЦ-1" (Паставы) – "Белшына" (Бабруйск) – 3:2**

■ Кастусь Александровіч

Пасля месячнага перапынку аднавіўся спартыўны сезон адразу для трох пастаўскіх футбольных каманд розных узростаў. Перад выходам іграком на кароткі адпачынак спецыялісты італьянскага суперклуба "Мілан", якія летам працавалі ў Паставах, правялі іх тэсціраванне. Трэнерскаму штабу неўзабаве былі дасланы камп'ютарныя раздрукоўкі і стала на навуковай аснове вядома, над чым неабходна працаваць кожнаму футбалісту. Дарэчы, іх чакаюць новыя, больш сур'ёзныя выпрабаванні, паколькі было вырашана прадоўжыць выступленні сярод старэйшых па ўзросце сапернікаў. Дарослая каманда ПМЦ замацавалася ў групе лідараў чэмпіянату Віцебскай вобласці.

А вось у новым юнацкім першынстве Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе абедзьве каманды мэблевага цэнтра сінхронна, з аднолькавымі вынікамі завяршылі першыя сваe сустрэчы. Спачатку на выездзе ў Брэсце старэйшая з іх "ПМЦ-1" (1995 года нараджэння) у паядынку з мясцовым "Дынама" нечакана буйна прайграла з лікам 0:4. Аднак , як ні парадаксальна, каманда гасцей, па сведчанні яе галоўнага трэнера, майстра спорту Сяргея Ясінскага, у гэтай сустрэчы паказала нядрэнную гульню і мела перавагу над супернікам, хоць за брэстчан гулялі некалькі дублёраў з вышэйшай дарослай лігі.

Аднак у складзе ПМЦ грубыя памылкі дапусцілі абодва варатары, а вось іх таварышы не змаглі рэалізаваць ніводзін з шасці выхадаў сам-насам з варатаром "дынамаўцаў". Наступны дамашні матч з бабруйскай "Белшынай" выклікаў вялікі глядацкі інтарэс і праходзіў па іншым сцэнарыі. Пастаўчане змаглі вырваць няпростую перамогу, хоць і згулялі пры гэтым непераканаўча, максімум працэнтаў на 20 сваіх патэнцыйных магчымасцей. У гэтай сустрэчы гаспадары поля ўжо на 8-й хвіліне дазволілі свабодна ўдарыць па варотах капітану бабруйчан Кірылу Шакураву – 0:1.

Праўда, раўнавагу на табло каманда "ПМЦ" аднавіла хутка пасля ўдала разыгранай камбінацыі, якую завяршыў на 10-й хвіліне трапным ударам нападаючы Аляксей Пятрэнка. Аднак ужо праз 5 хвілін госці зноў сталі вінашаваць свайго капітана пасля няўдалага прыёма ягонага ўдара варатаром пастаўчан Дзянісам Місюсам. У далейшым бабруйчане выглядалі на полі больш зладжаным калектывам, і толькі напрыканцы 1-га тайма прапусцілі вострую контратаку суперніка, якую завяршыў перспектыўны паўабаронца Ігар Пукаў, які трапіў у сферу інтарэсаў славутага маскоўскага "Спартака".

Пасля перапынку ў пастаўчан таксама не атрымоўвалася іх камбінацыйная гульня, хоць яны змаглі стварыць шэраг галявых момантаў для ўзяцця варот. У рашаючы момант, аднак, чамусьці не атрымоўваліся ў іх заключныя перадачы пад удар. Бачачы гэта, бабруйчане смела пайшлі наперад, і пэўны час лёс матча заставаўся невядомым. Але на сваім полі заўсёды гуляць прасцей пры актыўнай падтрымцы сваіх гледачоў. У рэшце рэшт гэта і спрацавала.

Напрыканцы сустрэчы гаспадары яшчэ больш актывізаваліся, і адну з апошніх атак (да радасці балельшчыкаў) завяршыў, выйшаўшы на замену, паўабаронца Андрэй Архіпаў – 3:2, які хоць ударыў і не моцна, але дакладна. У гэтым пераможным матчы за пастаўчан згулялі Місюс, Рымчонак, Альсевіч, Жарскі (к), Бабічаў, Сысянкоў (Латышаў), Ісерліс (Канонік), Давыдзенка (Санько), Пукаў (Галяк), Сідарэнка, Пятрэнка.

У адрозненне ад сваіх старэйшых таварышаў, каманда "ПМЦ-2" (1997/1996 год нараджэння) стартавыя матчы першынства Беларусі правяла больш удала. Яе склад папоўнілі шэраг цікавых, перспектыўных іграков, якія пачалі вучыцца ў футбольным спецкласе на базе СШ №3. Усяго ж ў райцэнтры з'явіліся два спецыялізаваныя 9-ты і 11-ты футбольныя класы, там займаюцца эрудыраваныя хлопцы з сярэднім балам атэстата вышэй за 7. Для 17 прыезджых іншагародніх юных футбалістаў стварылі на ПМЦ утульны інтэрнат, забяспечылі іх чатырохразовым калярыйным харчаваннем. І хоць у першым паядынку ў Віцебску пастаўчане прайгралі з лікам 0:1 мясцоваму "Камсамольцу", аднак па гульні ні ў чым не саступалі суперніку.

З добрым настроем каманда "ПМЦ-2" правяла затым наступны матч дома супраць чэмпіёна Віцебскай вобласці, грозных выхаванцаў ФК вышэйшай лігі "Віцебск". Гэтаму суперніку пастаўчане саступілі летам з лікам 0:7 у фінале абласнога першынства, а зараз змаглі ўзяць у яго рэванш з лікам 2:0 пасля дакладных удараў Дзмітрыя Кундры і Глеба Жалезнікава. Дарэчы, акрамя ўдзелу ў нацыянальным першынстве, для каманд ПМЦ прадугледжаны сёлета і цікавыя выезды на міжнародныя турніры ў Гомелі, Латвіі, Літве, а таксама тыднёвы вучэбна-трэніровачны збор у чэшскай сталіцы Празе.



# Віншаванкі

## Міхаіл Міхайлавіч Міхалевіч

**Ад усёй душы віншуем цябе з 60-гадовым юбілеем!**

**Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, светлых дзён у жыцці і аптымізму . Няхай заўжды ў тваім сэрцы жыве вясна, а жыццёвы шлях асвятляе зорка шчасця. Дабрыні табе, свята, цяпла і ўдачы, энергіі і аптымізму. Мы заўсёды жадаем цябе бачыць шчаслівым.**



Белой стаей годы пролетели,
Но душа, как прежде, молода.
Соловьи ещё не всё пропели,
Утекла ещё не вся вода.
Юбилей твой праздничный и светлый,
И грустить не время, не пора.
Долгих лет тебе и яблонь в цвете,
Радости, здоровья и добра.
Пусть ангел жизнь твою хранит
И близких всех оберегает,
Пусть горе в двери не стучит,
Удача никогда не забывает!

*Родныя і блізкія, сябры.*

■ Яўген Самсонаў

# Прыедзьце і паглядзіце...

– Прыедзьце, сфатаграфуйце і надрукуйце ў вашай газеце, якімі дровамі забяспечвае пенсіянераў Глыбоцкі філіял АУП "Віцебскаблпал", – з адчаем патэлефанавала жыхарка г. Глыбокае Святлана Баброўская. – Да іхняга дырэктара немагчыма датэлефанавацца, а на складзе паліва мне адказалі, што гэта не іх віна: такія дровы ім прывозяць.

Прыехаў, сфатаграфаваў. Сапраўды, карысці ад такіх дроў мала, ёсць, праўда, для адчэпнага пару здаровых калодак.



– А ці звярталіся Вы, паважаная Святлана Міхайлаўна, за парадай да свайго дэпутата? – спытаў аўтар гэтых радкоў.

– А я яго нават і не ведаю, ды і што толку. Вось ужо каторы год праз мой гарод цякуць каналізацыйныя сцёкі з прадпрыемства "Агульнахарч". Звярталася ў адпаведныя органы. Часова закрыюць трубу, а праз пэўны час зноў адкрыюць. Смурод, балота, ды і што на тых градках можна пасадзіць?

Падобных зваротаў са скаргамі ў рэдакцыю газеты "Вольнае Глыбокае" паступае шмат. Дзякуй за давер. І мы, канешне, робім усе магчымае для станоўчага вырашэння канфліктных спраў, але хацелася б нагадаць грамадзянам, што трэба ведаць сваіх народных абраннікаў і першачаргова звяртацца да іх за парадай і дапамогай. Ды і ўвогуле, нядрэнна было б ўлётку з іх прадвыбарнай праграмай павесіць нахай і не ў куце пад абразом, але на самым відным месцы і, калі надарыцца бяда, хуценька звярнуцца да народнага абаронцы за парадай і дапамогай.

З праблемамі Святланы Бабро ўскай мы звярнуліся ў Глыбоцкі раённы Савет дэпутатаў. Галоўны спецыяліст Іна Пачопка запэўніла нас, што дэпутат гэтай акругі, Ганна Садоўская, зробіць усё магчымае па абароне законных правоў і інтарэсаў сваёй выбаршчыцы Святланы Бабро ўскай.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**26 верасня – 2 кастрычніка 2011 г.**



## ПАНЯДЗЕЛАК, 26 верасня



**06.00, 07.10, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00,08.00**(ссурдопереводом), **09.00,12.00,15.00, 19.00,23.55**Новости.
**07.05, 08.05** «Зона Х». Дорожные новости.
**07.30, 08.25** Деловая жизнь.
**08.30** «Заведенка». Док. фильм (НГТРК).
**09.10 «Маргоша»**
**10.05 «На ножах»**
**11.05 «Дыши со мной»**
**12.10 «Риск без контракта»**
**13.45** Синематека.
**14.25** Здоровье.
**15.15, 19.20**Новости региона.
**15.35 «Зануда»**
**17.05 «На ножах»**
**18.00 «Дыши со мной»**
**18.50** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55 «Маргоша»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Командировка.
**22.00 «В тылу врага»**
**00.05** День спорта.
**00.15** Док. цикл «В поисках истины» (Украина). Фильм «9жизнейтеррориста Блюмкина».



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.10** «Наше утро».
**09.10** Контуры.
**10.15** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Затерянный мир».**
**12.00** «Страна чудес Рины Зеленой».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. «Участковый детектив».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Конституция Червякова. Право на независимость».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10 «Атлантида»**
**23.10** Премьера. «Нонна, давай!».
**23.45** «Прожекторперисхилтон».
**00.25** Премьера. **«Условия контракта»**
**01.20-01.50** Ночные новости.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»**
**09.05 «Интерны»**
**10.10** «Страсть и власть».
**10.45** Концерт Mylene Farmer «Avant que l'ombre... a Bercy».
**12.45** Реальный мир.
**13.20** Комедийный анимационный фильм **«Кукарача»** (Россия).



**14.45** Навіны надвор'я.
**15.15** Час суда. Дела семейные.
**16.20** Врачебные тайны с доктором А.Терещенко.
**16.55** Приключенческий боевик **«Снайпер. Оружие возмездия»** (Беларусь-Россия). 1-я серия.
**18.00 «Ты моя жизнь»**
**19.00 «Интерны»**
**20.05** Белорусское времечко.
**21.05** Калыханка.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Телебарометр.
**21.30** Концерт Mylene Farmer «Avant que l'ombre... a Bercy».
**23.35** Овертайм.
**00.00** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи».**
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Огонь любви».**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**14.45** «Большой город».
**15.20** Концерт М.Задорнова.
**16.00** «Я-путешественник».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви».**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** «Кинопонедельник»: **«БЛОКПОСТ».** Россия, 1998 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона Свабоды
**8:10 «Акварыум»**: 2 серыя
**9:00** Прэс-экспрэс
**9:15** Беларускія лёсы: «Бізнес-партыя»
**9:40** ПраСвет
**10:05** Эксперт
**10:30** Фільматэка майстроў: **«Варажба жарлянкі»**
**12:10** «Васіль Быкаў. Вяртанне», дак. фільм, рэж. Віктар Корзун, 2004 г., Беларусь
**12:30** Беларускія лёсы: «Бізнес-партыя»
**12:55** Эксперт
**13:20 «Акварыум»**: 2 серыя
**14:10** ПраСвет
**14:40** «Васіль Быкаў. Вяртанне», дак. фільм, рэж. Віктар Корзун, 2004 г., Беларусь
**15:05** Фільматэка майстроў: **«Варажба жарлянкі»**
**16:40** Беларускія лёсы: «Бізнес-партыя»
**17:05 «Мой родны горад»: 11 серыя**
**17:25** Зона Свабоды
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** «Палітычныя забойствы»
**18:55** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Залатыя горы»
**20:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:50 «Варажба жарлянкі»**
**23:20** Аб'ектыў
**23:45** Гарачы каментар

